# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1777) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 3 ЧЭРВЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл




*Школьны 60-асабовы хор са Старога Ляўкова. Музычны кіраўнік В. Целушэцкі.*

## „Беларуская песня'90" для школьнікаў

### ЦЭНТРАЛЬНЫ АГЛЯД

У апошнія гады горад Бельск стаў сталіцай конкурсаў „Беларуская песня" для школьнікаў. Не памятаю ўжо, каторы год запар у маі з'язджаюцца сюды дзеці з усёй беларускай Беласточчыны, каб паспяваць, паслухаць іншых, пачуць новыя беларускія дзіцячыя песні.

Так было і сёлета. Зала Бельскага дома культуры запоўнілася ўдзельнікамі і іх апекунамі. Прыйшлі, відаць, і проста слухачы, бо ў гэтай вялізнай зале не засталося вольнага месца. Людзі стаялі нават у дзвярах.

І было што паслухаць. Канцэрт працягваўся шмат гадзін. Выступіла 18 салістаў, 4 дуэты, 2 трыо, 2 квартэты, 8 шматасабовых інструментальна-вакальных калектываў і адзін, але вялізны (60 чалавек), хор. Усяго разам каля 200 дзяцей выйшла ў гэты дзень на сцэну. Шмат было цудоўных нашых лірычных і вясёлых песень — і вельмі папулярных (дзякуючы запісам Данчыка), і зусім невядомых. Аб гэтых апошніх паклапаціліся нашыя настаўнікі, інструктары музыкі, апекуны дзяцей. Вельмі карпатліва займаюцца пошукамі новых прыгожых песень і іх папулярызацыяй Сяргей Лукашук, Янка Хоха, Сцяпан Копа, Ірэней Лаўрэшук, Ірына Макац, Васіль Целушэцкі і іншыя. Таму, хоць і здаралася, што папулярныя песні паўтараліся ў конкурсе, усё ж вельмі многа пачулі мы новага. І разумна рабілі некаторыя калектывы з далейшых ад культурных цэнтраў мясцовасцей, запісваючы ўсе гэтыя навінкі на магнітафонную стужку. Гэта ім дапаможа пашырыць свой рэпертуар у будучыні.

У цэнтральным аглядзе ўдзельнікі выступілі раёнамі: Беласток, Бельск, Гайнаўка, Гданьск і Кляшчэлі.



*Адам Жарначук з Рыбалаў.*

**Беластоцкі раён** прыслаў на Цэнтральны агляд 4 салістаў, 2 дуэты і вялікі хор з Ляўкова. Асабліва спадабаліся слухачам салісты Адам Жарначук з Рыбалаў і Марта Драль з Васількова. Марта Драль першы раз удзельнічала ў нашым конкурсе. Яна вучаніца 4 класа пачатковай школы. Але ў яе цудоўны, вельмі прыемны голас, і, галоўнае, ёю заапекаваўся вельмі таленавіты саліст беластоцкага рок-гурту „Альбаросіка" Янка Хоха. Ён падабраў для яе адпаведны рэпертуар — зусім новыя, вельмі прыгожыя песні, ён сам яе вучыў і акампаніяваў ёй. А як важна маладому спеваку трапіць у добрыя рукі — не трэба нікога пераконваць.

Адам Жарначук выступае ў конкурсах „Беларускай песні" для школьнікаў ужо чарговы раз, нязменна займаючы першыя месцы. Свае дасягненні Адам заўдзячвае выключна свайму вельмі цікаваму, арыгінальнаму голасу, сваёй нястрымнай ахвоце спяваць, а таксама духоўнай падтрымцы настаўніка-акампаніятара і роднай сястры Эвы, якая прыязджае з ім на кожны конкурс. Сёлета Адам канчае восьмы клас у школе ў Рыбалах і будзе далей вучыцца ў Бельску. Гэтай весткай вель-

(Працяг на стар. 6)

## Пасля выбараў: плюсы і мінусы

Пачну ад мінусаў. Ёсць адзін, затое вялікі: у Беластоку. З Кааліцыйнага выбарчага камітэта (Праваслаўнае брацтва і БДА) на 18 вылучаных кандыдатаў прайшоў адзін. Астатнія не адолелі парогу 10 працэнтаў патрэбных для выбару галасоў, набралі па 7-8 працэнтаў. Гэта выбарчае паражэнне. Вінаватыя ў ім, як мне здаецца, самі кандыдаты. Бо пайшлі на выбары пад шыльдачкай Кааліцыйнага выбарчага камітэта, якая хутчэй за ўсё дэзінфармавала патэнцыяльных выбаршчыкаў — праваслаўных беларусаў. Яны не пайшлі галасаваць, бо на „Салідарнасць" галасаваць не хацелі, а сваіх кандыдатаў на выбарчых спісках не ўгледзелі. Пастуляваная дзеячамі БДА назва кааліцыі — Беларускі (або Праваслаўны) выбарчы камітэт — была адкінута саюзнікамі з канфесійнай арганізацыі як занадта радыкальная. Яснасць і выразнасць палітычнай пазіцыі дзеячы БДА ўсклалі на алтар так патрэбнага паразумення беларускага нацыянальнага руху з царкоўным асяроддзем. А паразуменне тое, у сваю чаргу, абярнулася непаразуменнем і выбарчым пройгрышам для абодвух бакоў. За палітычныя памылкі (нават у такіх, на першы погляд, малаістотных справах, як гучанне назвы выбарчай кааліцыі) трэба расплачвацца. Мабыць, палітычная дзейнасць немагчымая без памылак, асабліва тады, калі ставяцца першыя крокі ў ёй. Аднак жа памылак тых было ўжо даволі, каб і сляпому ўгледзець, па якой дарозе трэба ісці.

На Беласточчыне наадварот, чымсьці на Беларусі. Там у палітычным жыцці лідэруе Мінск, падымаючы за сабою „правінцыю", у нас жа „правінцыя" ідзе паперадзе, не азіраючыся на здранцвелы цэнтр. Выбары ў органы самакіравання па гмінах і мястэчках Усходняе Беласточчыны прайшлі, агульна кажучы, памысна для беларускіх выбарчых камітэтаў. Падрабязны аналіз беларускіх здабыткаў і страт на гэтых выбарах будзе прадстаўлены ў нашай газеце пазней, калі будзе поўная інфармацыя ад усіх выбарчых камітэтаў.

(Працяг на стар. 5)

 


# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 369


## ІСЛАЧАНСКІЯ ЗАДУМЕННІ

*Цыкл ста пяцідзесяці вершаў „Іслачанскія задуменні“ ўзнік у жніўні 1988 года ў часе майго двухтыднёвага прабывання ў Доме творчасці „Іслач“ Саюза пісьменнікаў БССР. Па сутнасці ўвесь цыкл мае манатэмны лясны характар. Быў ён мне падыктаваны настроем навакольных Іслачанскіх лясоў, якія мне моцна напаміналі лясныя масівы Беласточчыны. Усе прапанаваныя чытачам у гэтай „Літаратурнай старонцы“ вершы былі мною створаны на працягу аднаго дня — 25 жніўня.*

**Алесь Барскі**

— ✱ —

Прыйшоўшы ў Іслач,
Я не думаў аб карысцях —
Хутчэй за ўсё я прагнуў
Забыцця, спакою,
Ды гімн мне заспяваў тут
Кожны лісцік,
І дрэва кожнае
Мне падарыла мрою.
І я напоўніўся да берагоў
Багровым,
Блакітным,
Сінім
І зялёным.
І выплыў з сэрца струмень
Каляровай мовы
З зоркаю надзеі,
Цемры і змяну
Цалкам не баюся,
Валожынскае сонца
Мае вершы грэе
Аб Беларусі.

— ✱ —

Не думай, што спазнаў ты
Да канца маленні
Лясоў жывічных
І свяшчэнных.
Пыху пастаў
Пад дрэвам на калені,
Калі праўд прагнеш
Ты карэнных.
Пабудзь хоць крыху ты



*Фота Я. Цялушэцкага*

Звоннай.
Калі паслухаць хочаш,
Дык крані мяне рукою —
Я звонкай гамай
Адклікнуся
І вершы, як плыты,
Плывуць ракою
Праз паўнаводдзе
Беларусі.

— ✱ —

Тут неба-акіян
Устрымлівае хвалі,
Каб больш блакіту
Выхляпаць над лесам
І болей зорачак-караляў
На шыях сосен
Ўначы павесіць.
Таму у гэтым краі
Колераў так многа,
Таму у гэтым краі
Зоркі ноччу звоняць.
І асвятляюць шчодра
Сцежкі і дарогі
Для падарожных
І для коней.
І я іду таксама
Падданым,
Зняволеным лясною мрояй,
Той справядлівай, добрай
Пані,
Якая называецца сасною.
Пабудзь жывічны
І раслінны,
І залацісты, і зялёны.
Хто з нас не прагне
Стаць былінным,
Ці волатам, ці буйным клёнам?
Хто з нас не прагне пазмагацца
З кашчэем вечна хітрым,
Гнеўным,
Каб абзавесціся палацам,
І вызваліць цуд-каралеўну?

— ✱ —

Стаю, як велікан,
Над муравейнікам у лесе,
Гляджу на мітусню
Мурашачак нястомных,
Сасна кідае сёе-тое
З паднябесся,
А для мурашак гэта
Творыва для дома.
Калі ўрэшце нас,
Здавалася б, разумных,
Гармонія мурашніка з'яднае?
О, як ахвотна нашу
безразумнасць
У геніяльнасць часта апранаем!
Гляджу на мітусню
Маленькіх будаўнічых —
Супольны дом расце
І паўзірацца міла.
Назойлівай мурашкай
Думка мозг казыча —
Як бы ўзвесці мне
Уласніцкую вілу?

— ✱ —

Скажы мне,
Жнівень ісланчанскі,
Ці доўга будзе яшчэ
Лета?
Прызнаюся — пажыў па-панску
У рэспубліцы Саветаў.
Аднак былі і задуменні,
Назойлівых пытанняў горыч:
Ці ўсталі, ці не ўсталі
Мы з каленяў,
Ці шчасцем не завём
Мы гора?
Ці крызісны павук
Працяўны і злародны
Не схоча злосна перапоўзці
На арганізм наш ўсенародны
З рэвалюцыйнай бруднай
Поўсці?
Жыццё нас вельмі часта
За нос водзіць
Па бездарожжах.
Па каменнях —
Штурхне, ударыць нас
І баста,
І не папросіць прабачэння.

— ✱ —

Яшчэ нясмела,
Вельмі асцярожна
У лесе селіцца
Асенняя задума.
На сіратлівых
Шчаціністых пожнях
Снуецца павуцінне суму.
У полі ўжо восень
Каласкі збірае,
А ў лесе яшчэ лета
Па галінах скача.
Дык не сумуй,
Мой Іслачанскі краю,
Бо шчэ далёка
Да асенніх плачаў.
І лістапады дзесьці за гарамі,
І дзесь за морам
Снежаньскія сцюжы,
І дыхае цяплом
Кожны камок і камень,
І неба сінь купаецца
У лужах,
І сосны песні ў руках
Калышуць,
І ўзнімаюць іх
Аж да аблокаў белых.
А вечарам лясы
Чаруюць цішу
Даспелую.

**Алесь Барскі**

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

658
Старасць любіць мінулае і не верыць будучаму. Маладосць верыць будучыні і не любіць мінулага.

659
Калі немцы будуць мець вялікую армію, дык Еўропа будзе мець вялікую вайну.

660
Прыкра, калі народ не мае гадавіны сваёй незалежнасці.

661
Калі б душа мела выгляд, многія прыгажуні сталіся б брыдкімі.

662
Малады літаратар лічыў сябе крышталем, а іншых смеццем, і гэтай ідэяй засмечваў усім галовы.

663
Багацеі ахвотна гавораць аб высакароднасці ўбоства.

664
Асмяшайма заганы сваей нацыі, калі хочам, каб чужыя народы заўважылі нашы цноты.

665
Добры чалавек ніколі не хваліцца сваёй дабратой, бо не ведае, што ён добры.

666
Хвальба сваім альтруізмам — спецыяльнасць эгаістаў.

667
Мара свінні — пакупацца ў лужыне з сонцам.

668
Прыціскаючыся да яго грудзей, яна не чула субстанцыі сэрца, затое дасканала вычувала выпукласць кашалька.

669
Бывае, што тады, калі ён думае аб яе сэрцы, яна думае аб яго кашальку.

670
Ёсць незалежныя народы, якія лічаць, што іншым нацыям незалежнасць непатрэбная.

671
Народы, якія задавальняюцца малой незалежнасцю, заслугоўваюць на вялікую няволю.

672
Часта патрэбна чалавеку адвага, каб сказаць: я баюся.

673
Той разумнік, які прыдумаў для беларуса ідэю старэйшага брата, прагнуў, каб аставаўся ён у стане малодшага брата — Івана-дурака.

674
Удары біча сапраўды балючыя, але аздараўляючыя.

675
Удар праўды карыснейшы для чалавека, чым кампрэс маны.

676
Макіяж пазваляе мане выглядаць прыгажэй, чым праўда.

677
Жыццё не мае спосабу на смерць, але смерць мае спосаб на жыццё.

678
Калі сустрэнеш чалавека, які гаворыць, што ён добры, — ведай, што маеш дачыненне са злым чалавекам.

679
Калі глядзіш на недасканаласць свету, дык пачынаеш сумнявацца ў дасканаласці яго стваральніка.

680
Мана згінае, праўда выпростоўвае.

**Алесь Барскі**

„Ніва“
3 VI.1990 г. 

 

## З маёй званіцы

### КАЛІ ДУМАЕ СЭРЦА

Праз апошнія сорак пяць гадоў здавалася мне, што няма ў свеце больш дружалюбных краін, чым Польшча і Савецкі Саюз. Так было прынамсі на дзяржаўна-партыйным узроўні і ў афіцыйнай прапагандзе. Зараз сітуацыя дыяметральна адмянілася. У запале нармалізацыі польска-савецкіх адносін і адфальшоўвання навейшай гісторыі крытыкуецца літаральна ўсё, што пахне „саветамі“.

Ад нядаўняга часу аб'ектам такой крытыкі ў сродках масавай інфармацыі стаў савецкі падарунак польскаму народу — Палац культуры і навукі ў Варшаве. Калі я гэта чую, дык са злосці хочацца біць па мордзе першага лепшага прахожага, хаця ён Богу душу вінаваты. А найбольшую прэтэнзію маю я да кіраўнікоў Савецкага Саюза за тое, што не думалі галовамі, а сэрцам, і за тое, што выконваючы „интернациональный долг“, дбалі пра іншых, а не пра свой народ.

Тут справа не толькі ў Палацы, які Сталін падарыў „братняму польскаму народу“ як доказ „сімпатыі і вечнай дружбы“. Справа ў тым, што зараз вакол Палаца робяць палітыку ўжо і не такую брацкую, а наадварот, накіраваную супроць Савецкага Саюза. Польскае грамадства, нават яго частка, нескажоная антысавецкасцю, пачынае верыць сённяшнім прапагандыстам, што гэты аб'ект сапраўды нічога добрага Польшчы не прынёс.

Ці гэта праўда? На маю думку, не!

Калі быў падпісаны дагавор аб пабудове Палаца культуры і навукі, савецкія ўлады вырашылі перш за ўсё пабудаваць у разбуранай Варшаве пасёлак для сваіх рабочых. Такім чынам, на Ялёнках за савецкія грошы, машынамі і рукамі савецкіх рабочых узведзены былі жылыя дамы, сталовыя, крамы, кіно, бібліятэкі, святліцы.

„Саветы“ пабудавалі Палац і паехалі дамоў, пакінуўшы ў Варшаве сваю працу, пот і сэрца. У пасёлку Ялёнкі размясціліся студэнты.

Палац культуры і навукі выкарыстоўваецца згодна з яго прызначэннем. У ім адных толькі канферэнцыйных залаў трынаццаць, басейн, кінатэатры, музей тэхнікі, рэдакцыі, многія інстытуты Польскай акадэміі навук і гэтак далей. Усіх установ, якія тут размясціліся, я не ў стане пералічыць. Аднаго толькі не хапае — удзячнасці. Але ці ж гэта навіна? У час другой сусветнай вайны, калі Варшаву вызвалілі савецкія войскі, праз нашую Чаромху ішлі цягнікі з вагонамі, загружанымі пшаніцай. Калі я запытаў савецкага вартавога, куды вязуць гэтую пшаніцу, той са злосцю адказаў:

— Ваших надо выкормить, а свои пусть подыхают з голода.

А адбудова мастоў і дарог, размінаванне гарадоў?.. Аб гэтым зараз усе маўчаць, быццам вады ў рот набраўшы.

**Васіль Петручук**

## Свойскія малюнкі



*Старая хата ў Тыкоціне. Мал. У. Петрука.*

## АБ САБРАНЫХ ТВОРАХ ЯНКІ ЛУЧЫНЫ

„Талент — гэта рэч такая, што яе не зловіш, здабыць яе немагчыма, гэта божая іскра, з якой чалавек родзіцца, яна тлее ў ім або гарыць незвычайным полымем і спадарожнічае яму да магілы. (...) У цяжкіх і добрых хвілінах тая іскра (...) і з'яўляецца найдаражэйшай духоўнай каштоўнасцю, якую сапраўдны паэт не аддасць ні за якія скарбы свету. (...) Такім выбраным, у душы якога тлела іскра натхнення, быў Ян Неслухоўскі“.

Так невядомы аўтар ва ўступе да кнігі „Паэзія Яна Неслухоўскага“ (Варшава, 1898) на польскай мове пісаў пра творчасць аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Івана Люцыянавіча Неслухоўскага — Янкі Лучыны (1851—1897). Быў гэта першы зборнік паэта, падрыхтаваны да друку праўдападобна самім аўтарам. Другі зборнік — беларускамоўны — „Вязанка“ выйшаў таксама ўжо пасля смерці аўтара, у Пецярбурзе ў 1903 г. Было ў ім усяго адзінаццаць вершаў, але якраз яны прадвызначылі месца Лучыны ў гісторыі беларускай літаратуры.

Падрыхтаваны Уладзімірам Мархелем і выдадзены выдавецтвам „Мастацкая літаратура“ ў Мінску ў 1988 г. новы зборнік твораў Янкі Лучыны *) ўключае практычна ўсю ягоную адшуканую дагэтуль літаратурную спадчыну. У першую частку кнігі, папярэджаную прадмовай даследчыка, увайшлі арыгінальныя паэтычныя творы, у тым ліку і славуты верш „Роднай старонцы“, як і пераклады ягоных твораў Генадзя Тумаша, Рыгора Барадуліна, Міколы Арочкі, Івана Чыгрына і Уладзіміра Мархеля з польскай мовы. Затым — некалькі вершаў, напісаных Лучынам на рускай мове. Палешукоў зацікавіць несумненна ягоная польскамоўная паэма ў перакладзе Генадзя Тумаша „Паляўнічыя акварэлькі з Палесся“. У другой частцы змешчаны драматургічны абразок „Старасць не радасць...“ і нарысы пісьменніка, між іншым, „З крывавых дзён. Эпізод з паўстання 1863 года на Міншчыне“.

У наступнай частцы апублікаваны пераклад Янкі Лучыны твораў Уладзіслава Сыракомлі і Адама Асныка. У апошняй — лісты паэта да П.В. Шэйна, З. Пшасмыцкага (у перакладзе Адама Мальдзіса) і М.В. Доўнара-Запольскага.

Нельга не адзначыць і таго, што далёкі продак Івана Неслухоўскага (Янкі Лучыны) Пшэбыслаў Дамброва ў XIII ст. распараджаўся атрыманым ад князя Конрада Мазавецкага Цеханавецкім графствам у Драгічынскай зямлі з маёнткам Неслухі.

Дзякуючы кнізе, якую падарыў чытачам Уладзімір Мархель, талент Янкі Лучыны, як бы сказаў Максім Багдановіч, устае перад паклоннікамі беларускай літаратуры „ва ўвесь свой рост“.

**Юры Трачук**

---

*) Янка Лучына, Творы. Вершы, нарысы, пераклады, лісты. Укладанне, прадмова і каментарыі У. Мархеля, мастак А. Александровіч, „Мастацкая літаратура“, Мінск 1988, с. 214.

## Дзеля сямейнага шчасця

„Не хачу ні грошай, ні хаты — нічога. У судзе не буду дамагацца, каб дзяцей аддавалі мне. Яны прывыклі да цябе, ты сам зможаш іх выхаваць, яны больш цябе слухаюць. Аліменты буду плаціць рэгулярна, толькі мяне не непакойце. Я веру, што ты дасі рады, і маці табе дапаможа. Бяру толькі сваю вопратку і долары. Спаткаемся на разводзе. Мы людзі культурныя і павінны культурна расстацца“.

Андрэй знайшоў гэтую запіску на люстэрку. Знікла касметыка жонкі, зубная шчотка, тапкі... Кватэра была прыбрана, кветкі падліты. У шафах роўна паскладаныя ляжалі пасцель, вопратка яго і дзяцей. Хлопчыкі, якіх Андрэй прывёў увечары з прадшколля, нават не запыталіся, дзе мама? Яна так часта ездзіла ў камандзіроўку, што вядома было: мама ў Варшаве. Можа, прыйдзе бабуля, будуць памагаць тату варыць абед, а пасля будуць глядзець тэлевізар ці чытаць кніжку...

Абед быў нарыхтаваны, хапіла толькі падагрэць. Хлопчыкі памылі рукі, пад'елі і пайшлі гуляць у свой пакой. Андрэй апусціўся ў крэсла. Газетныя літары трапяталі перад вачыма...

З Валяй пазнаёміўся ён шэсць гадоў назад. Працавалі разам. Вядома, маладыя, да таго ж адной веры, любілі танцаваць... Пасябравалі. Валя была шыкоўнай бландзінкай — не адзін мужчына кідаў на яе вокам. Гаварылі, што Андрэй дырэктару за гэта не спадабаўся, а не за тое, што адважыўся крытыкаваць. Малады, ініцыятыўны інжынер хутка знайшоў працу на іншым прадпрыемстве. Дзяўчына з фінансаў стала сакратаркай, а праз паўгода вярнулася ў аддзел фінансаў з паднойнай зарплатай. Прадпрыемства паслала Валю вучыцца завочна. Вядома, атрымала дадатковы водпуск на вучобу. Для нікога не было таямніцай, што авансы не надта таленавітай працаўніцы — толькі дзякуючы сентыментам дырэктара да яе. Дырэктар, калі Валя прызналася яму, што водпуск, прызначаны на вучобу, правяла з Андрэем, запытаўся, ці хто аб гэтым ведае (ёсць жа свой гонар у каханка, асабліва на пасадзе) і запрапанаваў Валі працу ў свайго сябра-дырэктара. А сам хутка знайшоў сабе пацеху.

Валя не хацела яшчэ выходзіць замуж, тым больш за Андрэя, але дзіўным спосабам „заскочыла“. Дзіўным, бо ніколі не забывала пра таблетку, але было так цудоўна на ўлонні прыроды, а Андрэй такі нявопытны... Ды і што за муж! Калі ўжо падаць, то з добрага каня! Але лекар сказаў: калі яшчэ раз яна зробіць аборт — ужо можа больш ніколі не мець дзіцяці.

Хутка запісаліся і згулялі вяселле. Нарадзіўся Паўлік, праз год — Мар'юш. Не думала нават, што, кормячы груддзю, зноў „заскочыць“. Выхаваўчага водпуску не брала — мела добрую працу, авансавала, а дзецьмі магла заняцца маці Андрэя, са-

# „Беларуская песня'90" для школьнікаў



Інструментальная група калектыву „Жучкі".



Дзявочая група калектыву „Жучкі".

(Працяг са стар. 1)

мі ўцешылася Юстына Кардзюкевіч — інструктар Бельскага дома культуры і сёлетняя лаўрэатка конкурсу беларускай песні для дарослых. Яна добра разумее, як патрэбна Адаму дапамога музычнага інструктара, і вельмі цешыцца думкай, што такі голас уключыцца ў дарослы вакальны рух беларускіх самадзейнікаў Бельскага дома культуры.

**Бельскі раён** — гэта ў асноўным салісты і інструментальна-вакальныя калектывы Сяргея Лукашука. Выключэннем з гэтага быў толькі дуэт сясцёр Крысі і Ёлі Семянюк з Храбалоў, які ўжо выступае ў конкурсе не першы раз і рыхтуецца да яго самастойна.

Дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук, ён жа і кіраўнік бельскіх „Васілёчкаў", на дзіцячы конкурс выставіў два музычна-вакальныя калектывы: „Жучкі" і „Журавінкі", а можна нават сказаць, што і тры. Бо ў калектыве „Жучкі" асобна працуюць дзявочая і хлапечая групы. Усе тры калектывы выступілі цудоўна. Асабліва гледачы і журы высока ацанілі „Жучкоў". Гэта дзеці цяпер ужо пятага класа, а пачыналі яны з другога. І іх выкананне, і сцэнічныя ўражанні ў гледачоў ад выступлення калектываў — захапляючыя. Падапечныя Сяргея Лукашука, як калектывы, так і салісты, падрыхтавалі на конкурс выключна новыя, вельмі цікавыя, прыгожыя песні. Не ведаю, колькі іх, гэтых новых песень было (мабыць, з дзесятак), і ўсе вельмі меладыйныя, выключна дзіцячыя і адкрыўчыя. На жаль, журы не мела ніякіх правоў, каб неяк вылучыць апекуноў-інструктараў, не мела магчымасці іх узнагародзіць. Але ўклад дырэктара Бельскага дома культуры бясспрэчна быў велізарны, непараўнальны з нікім іншым. Тое, што ён асабіста робіць для нашай культуры і ў працы з дарослымі, і ў працы з дзецьмі, і ў прапагандаванні беларускага песеннага мастацтва, не мае сабе роўных у гісторыі нашай беластоцкай мастацкай самадзейнасці.

**Гайнаўскі раён** у параўнанні з мінулымі гадамі выпаў неяк больш бледна. Можа таму, што ў Гайнаўцы ў гэты час якраз праходзіў Фестываль царкоўнай музыкі, у якім таксама ўдзельнічалі і дзеці (80-асабовы дзіцячы і маладзёжны хор сабора Св. Тройцы пад кіраўніцтвам Дзмітра Ціханюка, колішняга саліста калектыву „Дубіны"). Гонар раёна выратавалі малышы з Чыжоў ды дзве салісткі з падгайнаўскіх вёсак — Гражына Галавачык з Кленікаў і Агнешка Кучко з Махнатага. Абедзве галасістыя, расспяваныя. З самой Гайнаўкі, шматтысячнай і беларускай, выступіў толькі квартэт са школы № 1. Спяваў і танцаваў нядрэнна, але гэта аж надта замала, каб гайнаўскія арганізатары культурнага жыцця маглі спаць спакойна. Дзяцей з Чыжоў падрыхтавала да конкурсу настаўніца матэматыкі Ніна Адамюк. Некалькі год раней яна сама была ўдзельніцай конкурсаў беларускай песні, спявала ў гайнаўскім хоры, і па сённяшні дзень яна ўлюбёная ў беларускую песню. Але выключную здольнасць мае яна ў вышукоўванні маладзенькіх талентаў. Гэта яна адважылася два гады назад прывезці на конкурс першакласніцу. І адразу малая Юльянка Карзуновіч заваявала сэрцы слухачоў. У мінулым годзе разам з Юльянкай прыехаў на конкурс зноў першакласнік Аркадзік Якімюк. А сёлета гэты Аркадзік, ужо другакласнік, займае першае месца сярод наймалодшых удзельнікаў.

Беларускі гонар далёкага **Гданьска** бараніў сёлета дзіцячы інструментальна-вакальны секстэт, які працуе пад кіраўніцтвам Ірэнея Лаўрэшука. Добры гэта калектыў, вельмі музыкальны, культурны і галасісты. Спяваюць дзеці вельмі зладжана, мілагучна, умела. Ды і салістка з Гданьска Эля Мацкевіч спадабалася слухачам.



Марта Драль з Васількова.



Гражына Галавачык з Кленікаў.



*Эля Мацкевіч з Гданьска.*

З багатай мастацкай праграмай з'явіўся на конкурс раён **Кляшчэляў.** І не дзіва: сюды ж уваходзілі такія вядомыя з расспявання мясцовасці, як Дашы, Кляшчэлі, Пашкоўшчына, Орля, Маліннікі ці Чаромха. З малодшых дзяцей вельмі сімпатычна выступіў вакальны калектыў „Крынічанька“ з Кляшчэляў, які арганізавала настаўніца Яўгенія Такаюк. З папярэдніх гадоў памятаем яе калектыў „Лянок“. Відаць, дзеці з „Лянка“ выраслі, а іх традыцыі пераняла маладзенькая „Крынічанька“. Захапленне ў гледачоў выклікаў спеў трох малых хлапчукоў з Чаромхі. Ну й галасы! Іх трыо гучала як адзін вельмі прыгожы і звонкі голас. І нічога, што не выступіла ў іх спеве шматгалоссе. Гэта яшчэ перад імі, бо спяваюць яны вельмі прыгожа. Са старэйшых вельмі спадабаўся квартэт „Беларусачкі“ з Дашоў. Сёлета з „Беларусачак“ — вялікага вакальнага калектыву, які вядзе Валянціна Дуда, прыехаў толькі квартэт (відаць, нейкія акалічнасці перашкодзілі прыехаць усім), аднак і квартэт даказаў, што ў Дашах спяваць умеюць, а вучні рыхтуюць добрую змену сваім мамам, якія таксама спяваюць у беларускім калектыве „Каліна“.

У заканчэнне справаздачы хачу дадаць толькі, што конкурс быў добра арганізаваны. Бельскі дом культуры — гэта добрае месца на такія мерапрыемствы. Салістам, якія прыехалі без уласнай апаратуры, дапамагалі на месцы, як маглі, дырэктар і працаўнікі гэтай пляцоўкі. Паколькі конкурс працягваўся шмат гадзін, удзельнікі атрымалі абед (гэта ўжо дзякуючы кіраўніцтву школы № 3), а ўвесь канцэрт праходзіў спраўна і цікава. Вялі яго дзве вучаніцы Бельскага беларускага ліцэя Марыя Аліфер і Эва Трафімюк.



*Вялі конкурс вучаніцы Бельскага беларускага ліцэя Эва Трафімюк і шматгадовая лаўрэатка конкурсаў беларускай песні для школьнікаў Марыя Аліфер.*

### ВЫНІКІ КОНКУРСУ

**Сярод малодшых (0—III клас)**

**Салісты:**

**I месца** і ўзнагарода „Зоркі“ — Аркадзь Якімюк з Чыжоў.

**II месца** — Юльяна Карзуновіч з Чыжоў.

**III месца** — Кацярына Шэвяк з Кляшчэляў.

**Дуэты:**

**I месца** — Аркадзь Якімюк і Юльяна Карзуновіч з Чыжоў.

**Трыо:**

**I месца** — хлопцы з Чаромхі.

*Сёстры Крыся і Ёля Семянюк з Храбалоў.*

**Сярод старэйшых (IV—VIII кл.)**

**Салісты:**

**I месца** — Адам Жарначук з Рыбалаў і Марта Драль з Васількова каля Беластока.

**II месца** — Гражына Галавачык з Кленікаў і Моніка Конюх з Беластока.

**III месца** — Агнешка Камінская з Кляшчэляў.

**Дуэты:**

**I месца** — сёстры Крыся і Ёля Семянюк з Храбалоў.

**II месца** — сёстры Аня і Івона Місеюк з Беластока.

**III месца** — Віялета Матвеюк і Эля Самоцік з Ляшукоў.

**Трыо і квартэты:**

**I месца** — „Беларусачкі“ з Дашоў.

**II месца** — калектыў са школы № 1 у Гайнаўцы.

**Інструментальна-вакальныя шматасабовыя калектывы:**

**I месца** — „Жучкі“ з Бельска.

**II месца** — секстэт з Гданьска.

**III месца** — „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны.

Хор быў адзін — з Ляўкова. Але, хоць без канкурэнцыі, выступіў добра і быў прыкладам добрага школьнага хору.

Такім чынам закончыліся конкурсныя змаганні беларускіх самадзейнікаў у гэтым годзе. Перад намі недалёка I Фестываль беларускай песні і такое папулярнае ў нас Купалле. Маем надзею, што найлепшыя спевакі з усіх аглядаў песні ўпрыгожаць сваімі выступленнямі і гэтыя беларускія святы.

Уданага, лёгкага і добрага спявання жадаю ўсім у наступных канцэртах.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



*Секстэт з Гданьска заняў у конкурсе II месца.*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# КАЗКІ ПУШЧЫ — ПА-ПОЛЬСКУ

У 1982 годзе выйшла з друку на беларускай мове кніжка Мікалая Гайдука „Аб чым шуміць Белавежская пушча". Сабраў у ёй аўтар казкі і легенды, якія навеяў яму пошум Белавежскай пушчы і дзякуючы якому падаўся ён, як піша ва ўступе да кніжкі, „да людзей з мястэчак, сёлаў і хутароў, што раскінуліся навокал пушчы", каб выпытаць у іх, аб чым „удзень і ўночы ва ўсе поры года пушча бае сабе розныя дзівосныя казкі і легенды".

Запісваў ён тыя казкі, легенды, паданні. Вышукоўваў у іх зярняткі народнай мудрасці, шматгадовыя назіранні нашых продкаў за прыродай, роздумы над сэнсам жыцця, над доляй і шчасцем.

І вось прыйшоў час, калі збіральніку ўдалося аддаць чытачу цікавую, займальную і павучальную кніжку. Казкі Белавежскай пушчы на беларускай мове амаль адразу зніклі з полак у кнігарнях. Шчасце мелі дзеці, якім удалося гэтую кніжку прыдбаць. І цяпер яшчэ нярэдка чуем пытанне, дзе б такую кніжку можна дастаць.

А на днях зноў выйшла з друку кніжка Мікалая Гайдука з тымі ж казкамі, але ўжо на польскай мове. „Białowieskie opowieści" выдала Краёвае выдавецкае агенцтва (КАВ) у Беластоку. Цяпер і тыя дзеці, якія не ўмеюць чытаць па-беларуску, змогуць пазнаёміцца з гэтай кніжкай.

Мне ж, прызнаюся, цікава было параўнаць, як беларускія казкі гучаць па-польску, як месцацца ў традыцыі польскага баяння. Спадабалася мне гэтая кніжка. Выдадзена салідна, старанна. Вельмі прыгожая графіка (мастак Тадэуш Гайль), з прыгожымі, але і трошкі страшнаватымі (як на пушчанскія несамавітасці выпадала б) малюнкамі Юліуша Батуры.

Добрая кніжачка, і не толькі для дзяцей. І маю таксама цікую надзею, што гэты пераклад, хоць глыбокі і багаты, бо аўтарскі, заахвоціць нашых чытачоў да пошукаў яе беларускага арыгіналу. Усё ж „Białowieskie opowieści" — гэта беларускія казкі і легенды.

Яніна Чэрнякевіч




Лаўрэаты конкурсу „Беларуская песня '90" для школьнікаў сярод малодшых Юльяна Карзуновіч і Аркадзік Якімюк з Чыжоў. Фотарэпартаж аб конкурсе чытай у „Ніве".

А. Наскробышаў

## „ЗУБНЫ ДОКТАР"

„Куды ж гэта дзед пайшоў? — падумаў Васілёк, заглянуўшы ў дзедаву майстэрню. — Заўсёды ён тут, а зараз некуды падзеўся".

Раптам Васілёк успомніў, што дзед збіраўся ісці па каня, каб адвезці мётлы, што ляжалі каля сцяны аж да самай страхі. Адменныя мётлы! Тоўстыя! Пераязаныя з аднаго канца зялёнымі гнуткімі лазінкамі.

„Толькі чаму гэта дзед іх на палкі не ўздзеў? Вунь колькі іх стаіць у кутку, гладкія, ачышчаныя ад кары — бяры і асаджвай".

Ён вырашыў дапамагчы дзядулю, але ў гэты момант у майстэрню ўвайшла цётка Паўліна. У руках яна трымала граблі. А ў граблях не было некаторых зубоў — ну, зусім, як у старога чалавека. Вельмі старыя, відаць, былі тыя граблі.

— А дзе ж дзед? — запыталася цётка ў хлопчыка.

Васілёк нічога не адказаў на гэта. Не спяшаючыся, агледзеў цётчыны граблі і прагаварыў:

— Ды вы не турбуйцеся, цётачка. Я сам пастаўлю зубы, тут у дзядулі іх шмат. Запасных.

Цётка Паўліна недаверліва пачала сачыць за яго работай. І не паспела суседка агледзецца, як Васілёк спрытна ўставіў адзін за адным у свабодныя дзірачкі ўсе тры зубы.

— Вось дзякую табе, — узрадавалася цётка Паўліна, беручы ў яго адрамантаваныя граблі. — Але ж гэты зуб крыху меншы за астатнія, — заўважыла яна.

— Не турбуйцеся, цётачка, — адказаў Васілёк, — вырасце зараз і гэты зуб!

Ён зрабіў маленькі клінок, стукнуў некалькі разоў малатком. — От і ўсё!

— Вось які ты малайчына! — усміхнулася цётка.

— А я ўжо добра ўстаўляю зубы, мне гэта сам дзед казаў, — крыху саромеючыся, пахваліўся хлопчык, праводзячы да дзвярэй суседку.

— Ну, бывай, маленькі майстар! Вялікае табе дзякуй, зубны доктар! — ветліва ўсміхнулася яму цётка Паўліна і, закінуўшы граблі на плечы, пайшла працаваць.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Віктар Гардзей

### ЧЫЙ БУКЕЦІК ЛЕПШЫ?

На лужку збіралі кветкі
Тры сястрычкі-малалеткі.
Ды чамусьці у старэйшай
Быў букецік прыгажэйшы.
У сярэдняй — трошкі горшы,
Самы горшы у малодшай.

Тры сястрычкі кветкі рвалі,
Між сабою размаўлялі:

— Я спляту вянок дзівосны,
Каб усім было зайздросна...

— Ну, а я свае адразу
Красачкі пастаўлю ў вазу...

— Свой букецік невялічкі, —
Кажа меншая сястрычка, —
Нашай маме падару я
Дый у шчочку пацалую...

### ЗАЙЦАВА КАПУСТА

Ля старых алешын густа
Зайцава расце капуста.
Хто яе тут высявае,
Зайка, мусіць, і не знае,
І гарод ён не вартуе,
А капусту вось каштуе!
І капуста ж у яго —
Тры лісточкі усяго!
Покуль зайка дзесьці ў полі,
Мы нарвём яе ў прыполік.
Тут яе расце багата —
Хопіць нам і зайчанятам.

### БУДЗЕ ДОЖДЖ

Гэткая была сухмень!
Засланіла хмара дзень.
І нарэшце! Над сялом —
Вецер,
Бліскавіцы,
Гром.
Будуць піць ваду лясы,
Травы,
Кветкі,
Верасы.
Будуць піць ваду жыты,
Асака
Ды чараты.
Тэлеграфныя ж слупы
Адно толькі змыюць пыл,
Сёння, як і заўсягды,
Не нап'юцца ім вады,
Бо манцёр, як дрот цягнуў,
Кубкі іх перавярнуў.

### БУСЛАВЫ БОТЫ

У чырвоных новых ботах
Ходзіць бусел па балотах.
Боты ў бусла да калег,
Бусел сёння цэлы дзень
То палюе на вужак,
То на жаб
Наводзіць жах.
Нахадзіўся між балот,
Раптам чуе — ціснe бот.
Як тут бусЛу да ляска
Без прыгодаў даскакаць?
Бусел енчыць:
— Не магу —
Не дайду,
Не дабягу...
Вось чаму ён у лазе
На адной стаіць назе...



*Удзельнікі тэатральнага калектыву са школы № 3 у Гайнаўцы.* *Фота Яніны Чэрнякевіч.*

Ніна Маеўская

# УПАРТЫ КАМАР

— Дзеці, сядайце бліжэй, будзем чытаць казку, — сказала Андрэйкава мама.

Галінка села на канапу побач з ёю.

— Ідзі, я хачу тут сядзець, — сказаў Андрэйка і тузануў дзяўчынку за сукенку. — Гэта мая мама.

Галінка трохі адсунулася і ціха сказала:

— Калі ты будзеш такі, я не прыйду больш да цябе гуляць.

— Ну і не прыходзь.

А мама ўжо чытала:

— „На лапушыстым лісточку жыла божая кароўка. Удзень яна працавала, а ўвечары прылятала на свой лісток і клалася спаць. Раніцай уставала сонейка, грэла ёй крыльцы. Божая кароўка прачыналася і ляцела зноў працаваць:

А пад лісточкам, у цяньку, жыў танканогі камар. Ён увесь дзень спаў, схаваўшыся ад сонейка, а вечарам гудзеў. злаваўся і шукаў, каб каго ўкусіць.

Аднойчы, напрацаваўшыся, божая кароўка прыляцела на свой лісток, а там сядзіць камар.

— Дз-дз-з... Я тут стану жыць, — сказаў ён. — Пашукай сабе другі лісток.

— Табе тут будзе дрэнна, — адказала божая кароўка. — Сонейка прыпячэ, спаць не дасць. Ідзі да сябе пад лісток.

Але камар не паслухаўся. Паляцела божая кароўка шукаць сабе іншы лісток, а камар налётаўся і заснуў.

Раніцай прыпякло сонца, ад гарачыні закружылася галава ў камара, яму зрабілася млосна. І камар упаў з лістка. А калі падаў, паламаў свае тонкія ногі. Камар стагнаў і клікаў на дапамогу божую кароўку. Але яна цяпер жыла далёка".

Калі Андрэйкава мама чытала казку, хлопчык трохі памаўчаў, а потым сказаў Галінцы:

— Заўтра ты тут сядзеш, добра?

# КВЕТКА МАКУ

Майскай раніцай ля самае дарогі ярка расцвіла чырвоная кветка маку. Яна была такая прыгожая, што нават ветрык гайдаў яе асцярожна-асцярожна, каб не сарваць пялёсткі.

Ляцелі два матылі. Яны здалёк убачылі кветку.

— Я буду на ёй гайдацца, — сказаў адзін.

— Не, я, — запярэчыў другі. І яны памчаліся навыперадкі, аж стаміліся крыльцы, пакуль ляцелі да кветкі. Але што гэта, ніякай кветкі не было на тым месцы. Матылі пакружыліся і паляцелі. А мак зноў расцвіў.

Ішлі дзве дзяўчынкі-сяброўкі.

— Цур, мая кветка, — крыкнула адна. І пабегла, каб хутчэй яе сарваць.

— Не, мая, — сказала другая. — Я першая яе ўбачыла.

Падбеглі дзяўчынкі — кветкі няма, адна толькі зялёная пупышка на тонкай сцяблінe.

Гэтак кветка хавала чырвоныя пялёсткі ў зялёную пупышку.

Далей пайшлі дзяўчынкі. А мак зноў свае пялёсткі паказаў.

Ішлі брацік з сястрою.

— Якая прыгожая кветка! — сказала сястрычка.

— Хочаш, я падару табе яе? — сказаў брацік.

— Шкада зрываць такую кветку, — сказала сястрычка, — але давай аднясём яе маме.

Хлопчык сарваў мак і перадаў дзяўчынцы.

Панеслі яны кветку ў падарунак маме.

# Вясёлы кутОЧАК

Убачыў сусед цётку Маню з завязанай галавой. Спачуваючы, пытаецца:

— Што здарылася, Маня?

— А няхай яе качка, карову нашу! Усё хвастом махае, падаіць не даецца. Дык я да хваста цэглу прывязала. Думала махаць не будзе.

— ✻ —

Янка: — Які месяц мае 28 дзён?

Коля: — Люты.

Янка: — Няпраўда, бо кожны.

— ✻ —

— Дзедку, — кажа малы Уладзік да свайго высокага і тоўстага дзеда, — цябе таксама прынёс бусел?

— Вядома, як усіх, — адказвае дзед.

— Не можа быць? — дзівіцца малы. — А можа цябе ён нёс кавалкамі?

# ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Новостройка, ул. Бульварная, 37-б. Линич Наде (6 клас).

— ✻ —

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, д. 88, корп. I, кв. 16. Зіноўевай Дашы (3 клас).

# Вершы Віктара Шведа

## МАРАФОННЫ БЕГ

Убачыў марафонны бег
Вясенняю парою
І тату запытаў Алег:
— Куды бягуць гурмою?

— Дык залаты медаль дадуць
З іх першаму на мэце.
— Чаму ж тады за ім бягуць
Усе, як быццам дзеці?

## ДА ЧАГО НАМ СЛУЖАЦЬ ОРГАНЫ ЛЮДСКІЯ?

— Адкажы нам, дружа,
Клас наш ведаць хоча,
Да чаго нам служаць
Вушы, нос і вочы?

— Вушы — імі слухаць,
Вочы — узірацца.
А нос, каб ім нюхаць
Ды ў ім калупацца.

## НЕ СПУЖАЎСЯ ЯКАЎ ЗЛОСНАГА САБАКУ

Ідуць бацька з сынам
Па вуліцы рана.
Сабака з-за тына
Рынуў нечакана.

— Ты спужаўся, Якаў?
— Татка, анічога.
Я толькі сабаку
Уступіў дарогу.

## ВУЧЫЦЦА НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

Азваўся настаўнік у школе:
— Ужо я не маю цярпення.
На ўрокі чамусьці ніколі
Не можаш прыйсці
без спазнення.

Настаўніку раптам Ягорка
Адказ даў надзвычай сур'ёзны.
— Сцвярджае ж нам прыказка:
Вучыцца ніколі не позна.

## МАТЭМАТЫКА-ЦАРЫЦА

— Трэба заўсягды вучыцца,
Даражэнькі мой унук.
Матэматыка-царыца
Усіх другіх навук.

— Так бароніш, дзед, заўзята
Тых навук, — сказаў Макар. —
Як царыца-матэматык,
Кім жа будзе тады цар?

## ДАБРАНОЧКА

Мама вучыць сына:
— Якая быць мусіць
Па пятай гадзіна?
— Шостая, мамуся.

— Што будзе па сёмай? —
Спытала сыночка.
— Тады, — кажа Сёма, —
Будзе Дабраночка.



**АДГАДАНКА**

Колькі цэглаў не хапае ў мураваным плоце?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok. ul. Suraska 1, „Зорка".

## НАРОДНЫЯ ПРЫКАЗКІ НА СУЧАСНЫ ЛАД

Не той наперадзе, што абагнаў, а той, хто сабе набраў.

Той бацькаўшчыну любіць, хто аб ёй трубіць.

Умеў намыліцца, умей і вымыцца.

Хто без навукі, у таго грошай поўныя рукі.

Б'юць і плакаць вучаць.

Хто пытае, той не знае.

Хто рана ўстае, той нявыспаны ходзіць.

Баба з воза — дзед піхнуў.

Дзе два б'юцца, там трэці церпіць.

Дзе дровы сякуць, там лес знішчаюць, бо ляснічага няма.

Дзе дурань праваронiць, там хітры „усарочыць".

Дзе коратка, там клеяць дурня.

Дзе многа нянек, там дзяцей няма.

Дзякуй, не дзякуй, дарма не дадуць.

Калі не да цябе п'юць, дык будзеш цвярозы.

Хто ўлетку цяньку шукае, той не загарае.

Будзеш усё ведаць — хутка здурэеш.

Рука руку мые, ды абедзве запэцканыя.

Хто парася ўкраў, той мяса будзе есці.

Жыве, як у жонкі пад спадніцай.

„ядань"

* * *

Негры з афрыканскай вёскі паслалі свайго чараўніка на практыку ў Англію. Вярнуўшыся, чараўнік расказвае аднавяскоўцам свае ўражанні з футбольнага матча: — Гавару вам, адны дзівы. Аднойчы белае племя сабралася ў адным месцы, вакол пляцоўкі, і на траву выбеглі 22 танцоры. Сталі яны падскакваць, танцаваць, бегаць. Потым да іх выбег тамашні чараўнік, засвісцеў і як не пойдзе зліўны дождж...

## НІЎКА

## АФАРЫЗМЫ

Супраць міфаў і стэрэатыпаў у гісторыі выступаюць у Польшчы найчасцей тыя, што хацелі б заступіць іх новымі.

*

Праўда раней ці пазней выходзіць наверх, часам як румянец, а часам як скула.

*

Кожная нянавісць спараджае нянавісць, нават нянавісць нянавісці.

*

Гісторыя — настаўніца жыцця. А можа — настаўніца смерці?

*

Гэта рэчаіснасць не мае будучыні таму, што рэаліі безупынна мяняюцца.

*

Чужое хваліце, чужога не ведаеце.

*

Падпольнае жыццё на могілках — вельмі інтэнсіўнае.

*

На экране каляровага тэлевізара відаць многа здарэнняў у двух колерах: чорным і белым.

*

Асёл і слон не ў стане перамагчы мядзведзя таму, што асёл не вельмі разумны, а слон — не вельмі спрытны.

**Міхал Гофман**

## АРЫГІНАЛ

Я заўсёды імкнуся быць не падобным на іншых. Па мне — хоць горш, затое не так, як ва ўсіх...

Неяк пазнаёміўся з дзяўчынай. Добрая дзяўчына — прыгожая, спагадлівая... Дзеля арыгінальнасці прапанаваў:

— Давай не будзем называць свае імёны. Паміж намі заўсёды будзе нейкая таямнічасць...

Дзяўчына згадзілася. Мы пасябравалі. Адносіны нашы хутка сталі блізкімі. Яна хацела пазнаёміць мяне з сваімі бацькамі, але я запярэчыў:

— Думаю, не трэба... У нас павінна быць не так.

Далей — болей... Калі мая сяброўка прапанавала афоміць нашы адносіны, я сказаў:

— Нічога няма ў гэтым арыгінальнага... Урэшце, не штамп у пашпарце гарантуе трываласць сям'і. Абыйдземся і так.

У нас нарадзілася дачушка. Забаўная такое дзіця... А колькі фантазіі можна прыкласці ў яе выхаванні!

— Можа, не будзем рэгістраваць? Хай будзе пад парадкавым нумарам... Першая! У гэтым нешта ёсць!

А сам пачаў задумвацца. Звязваю сабе рукі, губляю волю — у гэтым няма ніякай арыгінальнасці! Ды і дзяўчына ўсё часцей пачынае мець сваё меркаванне. Хто яна мне, у рэшце рэшт? Нават не ведаю, як завуць... Не, трэба падавацца адсюль...

**Васіль Феранц**

1.

2.

## ТУРЫСЦКАЯ ГІСТОРЫЯ

*Адной турыстцы.*

Мы варылі кашу.
Плыў вясёлы смех.
У вачах у Вашых
Загарэўся грэх.

Я адчуў, што хутка
Загаруся й сам,
Нейкай паўмінуткі —
І душу аддам.

Каб не быць пажару,
Закрычаў:
— Вады-ы-ы!
І з чырвоным тварам
Збег абы-куды.

Бег па нейкім полі
І ўсё бачыў дым.
Не-е, без жонкі болей
Не паеду ў Крым!

**Янусь Малец**

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:
I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.
Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 900 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
— czerwiec — 3600 zł.
— lipiec — 4500 zł.
— sierpień — 3600 zł.
— wrzesień — 4500 zł.
Cena prenumeraty na III kwartał — 12.600 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 704/90 r. U-3.